Наша Свабода

№139(226) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДУ

21 СНЕЖНЯ 2001 году ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

# Украіна перагледзела доўг Беларусі

Міжурадавая сустрэча прэм'ераў Беларусі і Украіны Генадзя Навіцкага і Анатоля Кінаха, што адбылася ў аўторак у Чарнігаве, мела на мэце пашырыць гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі.

Быў распрацаваны шэраг канкрэтных праектаў дзеля развіцця двухбаковых стасункаў, у тым ліку і сустрэчных інвестыцый. Кіраўнікі ўрадаў вялі гутарку і з прадстаўнікамі дзелавых колаў. Апошнія таксама выявілі зацікаўленасць у пашырэнні ўзаемавыгаднага бізнесу.

Узнімалася падчас міжурадавых перамоваў і пытанне ўкраінскага доўгу Беларусі. Над гэтым працавалі эксперты міністэрства фінансаў і Нацыянальнага банку.

Украінскі бок не прызнаў за сабою суму доўгу ў памеры 113 мільёнаў даляраў. Пра гэта паведаміў сам Генадзь Навіцкі, які на зваротным шляху з Чарнігава ў Мінск завітаў у ААТ "Гомельагракамплект", дзе яго і заспелі журналісты.

Доўг у памеры 113 мільёнаў даляраў быў узгоднены паміж прэзідэнтамі Леанідам Кучмам і Аляксандрам Лукашэнкам. Частку доўгу Украіна збіралася вярнуць шляхам перадачы Беларусі нерухомасці ў Крыме.

Паводле словаў прэм`ер-міністра Г.Навіцкага, зараз Украіна знізіла ўзгодненую суму доўгу ажно да 51 мільёна даляраў. Да таго ж з ранейшай дамовы скасаваны пункт пра передачу Беларусі нерухомасці ў Крыме.

Беларускі бок у сваю чаргу не прызнаў зменшанага больш як у два разы доўгу Украіны.

– Я не мог з гэтым пагадзіцца, – сказаў карэспандэнту НАШАЙ СВАБОДЫ Г.Навіцкі. – Я наогул не меў такіх паўнамоцтваў – пагаджацца ці не пагаджацца. Выстаўлены новыя ўмовы. Мы іх узялі і дамовіліся, што будзем вывучаць.

Адносна агульнай мяжы ўкраінскі бок пытанне не ўздымаў. Як заявіў старшыня Савета міністраў, праблемы мяжы паміж Беларуссю і Украінай у прынцыпе няма. Афіцыйна праведзена дэлімітацыя і дэмаркацыя. Падпісаныя ўсе дакументы. Засталася толькі адна працэдура – ратыфікацыя пагаднення ў беларускім парламенце. Аднак, як вынікае са словаў Генадзя Навіцкага, яна не адбудзецца да той пары, пакуль пытанне аб вяртанні ўкраінскага доўгу Беларусі не будзе вырашанае.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ**




# Прыватызацыя па-беларуску

*Дзяржава па-ранейшаму застанецца найбуйнейшым у Беларусі гаспадаром прыбытковых прадпрыемстваў.*

Такую выснову можна зрабіць з выступу кіраўніка краіны Аляксандра Лукашэнкі на нарадзе, прысвечанай акцыянаванню прадпрыемстваў нафтахімічнага комплексу. Гэтая нарада адбылася ў сераду.

Як заўсёды, замест таго, каб карыстацца багатым прыватызацыйным досведам як эканамічна развітых краінаў, так і суседніх, пераходных, беларускае кіраўніцтва вынаходзіць свой няпросты шлях, па якім мусіць пайсці прыватызацыя. Шлях гэты заблытаны да немагчымасці.

Са словаў А.Лукашэнкі вынікае, што інвестара – у першую чаргу замежнага – беларускія ўлады збіраюцца паставіць у такія ўмовы, у якіх будзе надзвычай складана не толькі атрымаць якія-небудзь прыбыткі ад інвестыцыяў, але і вярнуць ужо ўкладзеныя сродкі. Глядзіце самі.

Найперш – "абвальнай прыватызацыі" ў Беларусі не будзе. "Прыватызацыі не будзе, і не спадзявайцеся!" – казаў уладар краіны. Гэта значыць, што на акцыянаванне пойдуць толькі такія прадпрыемствы, якіх не шкада. Прыклад такога падыходу быў прадэманстраваны, калі Беларусь на расійскі ўзор правяла чэкавую прыватызацыю. У абмен на чэкі "Маёмасць", што задарма дасталіся беларусам, можна было атрымаць акцыі прадпрыемстваў, чые гадавыя дывідэнды часам былі меншыя за кошт карабка запалак. Што да высокадаходных прадпрыемстваў, то яны так і засталіся ва ўласнасці дзяржавы.

Наступны этап пасля выбару аб'екта для прыватызацыі – гэта ўзгадненне па ўсіх інстанцыях. Нездарма начальнік Беларусі паабяцаў "вельмі складаны механізм прыватызацыі". На прыватызацыю спатрэбіцца згода працоўнага калектыву, кіраўніцтва прадпрыемства, раёну, вобласці і нават краіны. Ва ўмовах чынавенскай сваволі, якія склаліся ў Беларусі, відавочна – кожны этап будзе шмат каштаваць патэнцыйнаму акцыянеру.

Пасля гэтага неабходна вызначыць памер пакету акцыяў, які можа набыць патэнцыйны інвестар. І тут А.Лукашэнка быў няўмольны: кантрольны пакет акцыяў мусіць захоўвацца ва ўласнасці дзяржавы. "Ніякай гаворкі пра перадачу кантрольнага пакету акцыяў якім бы там ні было інвестарам на першым этапе прыватызацыі быць не можа", – адзначыў ён.

Гэта значыць, што ўсе змены, якія будзе праводзіць інвестар, не пройдуць без згоды дзяржаўнага прадстаўніка, які і будзе кіраваць кантрольным пакетам акцыяў.

Тым часам айчынныя прадпрымальнікі будуць мець некаторыя прэферэнцыі пры акцыянаванні. На думку беларускага кіраўніка, акцыі для іх будуць таннейшыя.

*Заканчэнне на стар.3*




# Прэзідэнт адведаў вучня

*Візіт Яўгена Прымакова ў Мінск, які прайшоў у мінулы аўторак, мог здавацца наспадзяваным. Насамрэч яго чакалі.*

Яшчэ калі акадэмік Прымакоў ачаляў расійскія МЗС і ўрад, Лукашэнка пасля сустрэч з ім заўсёды падкрэсліваў, што лічыць Яўгена Максімавіча за аднаго са сваіх настаўнікаў. Варта нагадаць, што ягонымі настаўнікамі лічацца таксама Лужкоў і патрыярх Алексій. Час ад часу Лукашэнку цягне з імі параіцца. Так, прынамсі, ён сам кажа. У некаторых колах былі жартавалі, што якраз Прымакоў у свой час параіў маладому прэзідэнту выгнаць паслоў з Драздоў. Як вядома, цяпер там застаўся разам з Лукашэнкам і пэўнаю групай адказных таварышаў толькі расійскі пасол.

І вось настаў чарговы момант, калі Лукашэнку спатрэбілася параіцца. Да апошняга моманту час бліц-візіту Прымакова ў Мінск старанна ўтойваўся. Цяперашняя сітуацыя патрабавала канфідэнцыйнасці, да якой патрыярх расійскай палітычнай сцэны быў заўсёды схільны. Выглядае вельмі верагодным, што парады Прымакова маглі насамрэч сыходзіць не толькі ад яго.

*Заканчэнне на стар.3*

## ВЕСТКІ



## Беларускія кіроўцы на расійскіх дарогах

Сёлета беларускія кіроўцы апынаціся ў дарожна-транспартных здарэннях на дарогах Расіі часцей, чым у мінулым годзе. Цягам 2001 году ДТЗ з беларускім удзелам там зарэгістравана 173; 75 чалавек загінулі, 238 атрымалі траўмы, а летась гэтыя лічбы былі роўныя адпаведна 149, 40 і 213. На беларускіх дарогах колькасць ДТЗ з удзелам расейцаў паменела на 4%.

## Няўдалы паход да Адміністрацыі прэзідэнта

Усяго толькі некалькі хвілін доўжыўся 19 снежня пікет чатырох бабруйчанак у Мінску каля Адміністрацыі прэзідэнта. Жанчыны пратэставалі супраць незаконнага, на іхнюю думку, звальнення з працы і пазбаўлення жылплошчы. Яны скардзіліся на бабруйскія ўлады і прасілі сустрэчы з прэзідэнтам, але замест гэтага апынуліся ў пастарунку. Суд прысудзіў дзвюм пікетоўшчыцам 10 сутак арышту, а яшчэ дзвюм – штраф у памеры 150 мінімальных заробкаў.

## Камянецкая вежа на манеце

Учора Нацыянальны банк Беларусі выпусціў у серыі «Помнікі архітэктуры Беларусі» памятныя манеты «Камянецкая вежа» накладам 2 тысячы. Адна – сярэбраная, вартасцю 20 рублёў і дыяметрам 39 мм, другая – медна-нікелевая, вартасцю адзін рубель і дыяметрам 32 мм.

## Рэкорд таварных знакаў

У 2001 годзе ў Беларусі пабіты рэкорд па колькасці таварных знакаў, пададзеных на нацыянальную працэдуру рэгістрацыі. На працягу гэтага году на рэгістрацыю пададзена ўжо 2 600 таварных знакаў. Папярэдні рэкорд належаў 1994 году з 2 400 таварных знакаў.

## Без юрыдычнага адрасу

Адразу некалькі грамадскіх аб'яднанняў пазбавілі памяшканняў пад юрыдычны адрас у Брэсцкім дзяржаўным універсітэце: гэта першасная арганізацыя Свабоднага прафсаюзу Беларускага работнікаў БрДУ, Геаграфічнае таварыства, Асацыяцыя палітычных навук, мясцовая каманда КВЗ, Украінскі навукова-педагагічны саюз «Берегиня». Такое рашэнне прынята адміністрацыяй ВНУ.

## НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага даляра на «чорным рынку» 1580**

## «Чырвоны каптурык» пасталеў

Першы ў вобласці боўлінг-клуб адкрыўся 18 снежня ў Брэсце.

Пад яго перабудавалі дзіцячае кафэ «Чырвоны каптурык». Пасля таго як кафэ стала нерэнтабельным, яго прадалі з аўкцыёну. Паколькі гаспадар не спяшаўся яго ўладкоўваць, будынак давялося прадаць яшчэ раз. Прыватнае прадпрыемства «Канстанта-Брэст» прапанавала сур'ёзную рэканструкцыю з надбудовай другога паверху і арганізацыяй тут боўлінг-клубу.

За два гады кафэ было перабудавана і набыло новае аблічча. Інтэр'ер аўтары праекту аформілі ў егіпецкім стылі. Плошча спартыўнага манежу — 482 квадратныя метры. Дзве дарожкі аддадзеныя пад боўлінг, дзве — пад кегельбан. Падчас адкрыцця клубу дырэктар прадпрыемства «Канстанта-Брэст» Алег Бушмялёў даверыў кінуць першы шар старшыні Брэсцкага гарвыканкаму Мікалаю Гардзіевічу, а пасля пагулялі ўсе госці.

Боўлінг-клуб пакуль не мае назвы. Алег Бушмялёў спадзяецца, што прыдумаць яго дапамогуць наведнікі.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## Усім прыйдзецца вучыць мову Канфуцыя



Англійская мова, сёння самая распаўсюджаная ў «сусветным павуцінні», даволі хутка саступіць месца лідэра кітайскай мове, якая выйдзе наперад і яе, і ўсіх астатніх сваіх канкурэнтаў да 2007 году. Ужо цяпер сярод 450-мільённага «насельніцтва» інтэрнэту англійская мова мае не надта вялікую перавагу над мноствам іншых моваў, якія выкарыстоўваюцца для абмену паведамленнямі. А ў наступным годзе носьбітаў гэтых моваў стане болей за тых, хто карыстаецца мовай Шэкспіра.

Цягам наступных пяці гадоў мільёны кітайцаў, якія пачынаюць карыстацца сеткай, назаўжды зменяць размеркаванне лінгвістычных сілаў на карысць нашчадкаў Канфуцыя.

Гэткая праекцыя, заснаваная на фенаменальным росце колькасці карыстальнікаў інтэрнэту ў Кітаі, зменіць стратэгічныя планы глабальных медыяў. Ужо сёння ёсць газеты, якія існуюць толькі ў электронным выглядзе і спалучаюць у сабе адзнакі друкаваных выданняў з уласцівасцямі тэлевізійнага каналу.

Уважаючы на гэта, можна прадбачыць калі не канец, дык прынамсі значную саступку старых сродкаў інфармацыі на карысць навейшых. А калі гэта адбудзецца ў свеце, дзе англійская мова і сёння ўжо не асноўная, дык варта задацца пытаннем, што нас чакае тады?

Цяпер даць дакладны адказ няпроста, хоць скептыкі і сцвярджаюць, што кітайская мова застанецца абмежаваная абшарам Кітаю і ніколі не стане міжнароднай, як цяпер мова англійская.

І ўсё ж нават калі кітайская мова пакуль не міжнародная, рэальна яна ўжо сталася мовай зносінаў на большай частцы Азіі, дзе шматлікія суполкі выхадцаў з Кітаю дамінуюць у справах рэгіянальнага гандлю. Гэтая сітуацыя выявіцца яшчэ выразней у 2007 годзе і далей у сувязі з ростам самога Кітаю і яго эмігранцкіх «выселкаў». Астатняя частка карыстальнікаў сеткі не зможа заставацца абыякавай да гэтага пераходу.

Адвакаты ўжо сёння намагаюцца прыдумаць, як упарадкаваць блытаніну моваў; сапраўднай праблемай застаюцца прынятыя лексічныя штампы – як перавесці іх на кітайскую мову. Ці мяняць традыцыю напісання назваў? Ці будуць гэта новыя назвы? А калі назвы будуць іншыя, то як быць з тымі, якімі мы карыстаемся згодна з цяперашняй традыцыяй? А такія сістэмы, як *Aol*, *Murdoch*, *Bertelsmann* і гэтак далей: калі кітайская мова набярэ моц, то як захаваць магутную базу гэтага свету інтэрнэту, які ў такім выпадку будзе закрыты?

Гэтае пытанне – цэнтральнае для новай эканомікі, так моцна звязанае з інфармацыйнымі сістэмамі, у якіх пачне пераважаць кітайская мова. Тут ёсць пра што падумаць.

«La Stampa»

**СПОРТ**

## Эфедрын забраў золата

Амерыканскую веласіпедыстку Анэт Хансан дыскваліфікавалі на месяц, бо яна не прайшла допінг-тэст. У арганізме чэмпіёнкі свету па велатрэку ў гонцы пераследу на 2 кіламетры знайшлі эфедрын. Аналіз быў узяты 11 кастрычніка на спаборніцтвах у Вялікабрытаніі. Трыццацігадовую спартсменку пазбавілі залатога медаля, а дыскваліфікацыя пачала дзейнічаць з 11 снежня. Варта зазначыць, што эфедрын часта ўваходзіць у склад лекавых сродкаў, якія прадаюцца без рэцэпту і якія можна ўжыць і не наўмысна.

**Associated Press**

# Ален Дэлон пакідае экран

Знакаміты французскі акцёр Ален Дэлон вырашыў завяршыць сваю бліскучую кінакар'еру. Ён паведаміў публіцы, што болей не будзе здымацца. «Новае кіно не для мяне, – патлумачыў сваё рашэнне Дэлон на спецыяльнай прэс-канферэнцыі ў Парыжы. – Мне ў жыцці пашанцавала: я меў магчымасць рабіць што заўгодна, калі заўгодна і з кім заўгодна. Я зняўся ў 85 кінастужках, прычым у 82 з іх іграў галоўныя ролі».

На пачатку студзеня прыхільнікі таленту Дэлона ўбачаць акцёра ў яго апошняй ролі. Нядаўна ён зняўся ў трохсерыйным дэтэктыўным тэлефільме рэжысёра Жазэ Пінейры пад назвай «Фабіа Мантале». Ален Дэлон патлумачыў, што не даў рады спакусе выканаць галоўную ролю – марсельскага дэтэктыва Фабіа Мантале, незвычайную асобу, анархіста і да таго ж гурмана. Мантале – герой папулярнай у Францыі трылогіі дэтэктыўных раманаў, якія паклалі пачатак такой літаратурнай плыні, як «марсельскі дэтэктыў». Аўтар бестселераў – марселец Жак-Клод Ізо. Дэлон вырашыў, што, калі гледачам фільм спадабаецца, ён здымецца ў ягоным працягу.

Ален Дэлон, які нядаўна адсвяткаваў свае 66 гадоў, застаецца адным з найпрыгажэйшых акцёраў еўрапейскага кінематографу. Пранізлівыя халодныя блакітныя вочы сталі візітоўкай акцёра, а сам ён успрымаецца як сімвал эпохі. Дэлон правёў на здымачных пляцоўках 43 гады і кажа, што ніколі не згаджаўся працаваць пад чыім-небудзь ціскам, прымусам ці дзеля грошай.

У будучыні Дэлон мяркуе заняцца рэжысурай і прадзюсерствам. Ён ужо паставіў два фільмы і выступіў прадзюсерам 24 карцін. Дэлон працаваў з такімі знакамітымі рэжысёрамі, як Лукіна Вісконці, Мікеланджэла Антаніёні, Рэне Клемон.

Бацькі акцёра разышліся, калі хлопчыку было чатыры гады. Маці, Эдыт Арнольд, працавала фармацэўтам, а бацька, Фаб'ен Дэлон, валодаў невялікай кіназаляй "Рэгіна" ў Бургля-Рэйн. Блізка дому не было ніводнай школы, так што падлеткам Дэлон паспеў павучыцца ў 17 розных класах. А ў 15 гадоў яны з сябрам вырашылі ўцячы ў Чыкага, але іх затрымала марская паліцыя.

Ален Дэлон любіць ездзіць на матацыкле, гуляць у футбол. У войску ён служыў на флоце ў Індакітаі. Хоць існуе версія, што ён служыў там у дэсантным падраздзяленні. Адзінае, пра што ён не думаў, – гэта пра кар'еру акцёра. Ён працаваў насільшчыкам у супермаркеце і афіцыянтам у танных карчомках. Там ён знаёміўся з багемнай моладдзю і крымінальным светам. Не маючы сталага заробку і свайго кута, Ален начаваў у сяброў, адным з якіх быў акцёр Жан-Клод Брыялі. Разам з ім у 1957 годзе Ален Дэлон паехаў на Канскі фестываль «патусавацца». Менавіта там прадзюсеры звярнулі ўвагу на невядомага маладога чалавека з уражлівай прывабнай знешнасцю. Уплывовы галівудскі прадзюсер Дэвід Селзнік адразу прапанаваў яму кантракт на сем гадоў. Але Дэлон чамусьці адмовіўся ад зайздроснай прапановы і вярнуўся ў Парыж, дзе зняўся ў Іва Алегрэ ў фільме «Калі ўмешваецца жанчына». Роля ўдалася, і на яго звярнуў увагу Рэне Клемон, запрасіўшы зняцца ў карціне «На яркім сонцы», дзе Дэлон выканаў адну з лепшых сваіх роляў. Але самай вядомай роллю Дэлона сталася роля Рока ў сусветна вядомым фільме Л.Вісконці «Рока і ягоныя браты» (1960).



Акцёр, які так і не атрымаў ды нават не імкнуўся атрымаць вышэйшую адукацыю, — узор таленавітага і паспяховага самавука. І аднак Дэлон усё жыццё разрываўся паміж лёгкім авантурным кіно і «высокамастацкім». Таму адносіны шматлікіх гледачоў да яго творчасці такія неадназначныя і ўражанні ад яго персанажаў часта супрацьлеглыя. Яго нават называюць «Бельмандо для чуллівых». А сам Дэлон лічыць, што ўсе ролі былі аднолькава цяжкімі, бо ў кожную прыходзілася ўкладаць душу. Кожны герой – гэта адлюстраванне ягонага характару, а сам ён мае звычку аддавацца і жыццю, і працы да канца.

**Utro.ru**

# Шоры на вачах у левых

*Што, для левых ізноў надышоў 1956 год? Падобна, што так.*

У 1956 годзе пасля прамовы Хрушчова, якая выкрывала некаторыя сталінскія злачынствы, левыя па ўсім свеце разгубіліся. Хрушчоўскія выкрыванні ўзрушылі не толькі сяброў камуністычных партыяў; прагрэсіўныя людзі самых розных плыняў – ад трэд-юніяністаў да трацкістаў – былі вымушаныя, калі, вядома, ім хапала смеласці і сумлення, пераацаніць свае даўнія перакананні.

Падзеі 11 верасня ўвагналі тых з нас, хто лічыць сябе людзьмі прагрэсіўнымі – хто верыць у дэмакратыю, фемінізм, правы чалавека і сацыялізм – у такі самы крызіс, як у 1956 годзе. Гэтым я зусім не хачу сказаць, што ісламскія фундаменталісты, якія абвесцілі вайну «нявернымі» (прычым у ліку «няверных» апынулася багата сваіх жа), – сталіністы (хоць гэтыя дзве групы пэўна чымсьці падобныя адна да адной). Я хачу сказаць, што мы павінны, калі нам хопіць сумлення і смеласці, пераацаніць свае перакананні, якія так доўга песцілі.

Чашай Грааля для шмат якіх левых канцэпцый цягам апошніх двух-трох дзесяцігоддзяў была тэорыя адноснасці ў галіне культуры. Мы спужаліся, каб нас не пачалі называць расістамі, імперыялістамі, ганарліўцамі, элітарнікамі ці «залішне заходнікамі», – і адвялі вочы, а час ад часу нават падтрымлівалі ўсялякія праявы варварства. А побач з гэтым з'явілася дзіўная пашана да «традыцыйных культур» – дзіўная для тых, хто лічыць сябе дальнабачнымі рацыяналістамі, прынамсі ў тых выпадках, калі гаворка ідзе пра культуры, што расцвітаюць у краінах так званага трэцяга свету.

Да прыкладу: адна мая студэнтка абараняла калечанне жаночых геніталіяў, якое практыкуецца ў Афрыцы, на падставе яго «традыцыйнасці». Я ёй адказала: «Правільна, традыцыйным было і рабства ў паўднёвых штатах Амерыкі». – «Гэта ж зусім другое!» – закрычала яна.

На жаль, гэта не так. І на самой справе, калі б Маркс пісаў цяпер, яго б палівалі гразёю за дыскрэдытацыю ідыятызму вясковага жыцця – бо сёння любы ідыятызм трактуецца (хай нават усё сведчыць пра адваротнае!) як форма інтэлекту. І далей: ёсць опіум для народу, які нейкім чынам трансфармаваўся ва ўсвядомленае, нават дыялектычнае патрабаванне нацыянальнага вызвалення. Шкада, але і гэта не так!

Горкая іронія: гэтая спроба вызваліцца ад расізму прывяла да расісцкага погляду на свет. Як яшчэ мы можам назваць тое, што мы свядома закрывалі вочы на пакуты людзей, якія жывуць у слабаразвітых краінах, катоўні, якія запаланілі ўсе арабскія краіны, мільёны пакутнікаў з часоў вар'яцкай ірана-іракскай вайны, сотні санкцыяваных дзяржавай смяротных пакаранняў у Кітаі, даведзены да абсурду прыгнёт жанчын? (Нюрнбергскія законы здаюцца амаль мяккімі ў параўнанні з тымі забаронамі, што накладае на жанчын Талібан, хоць па духу або два пакеты пастановаў – браты-блізняты.)

Вось яшчэ адна іронія: наша вера ў правы чалавека нейкім чынам паспрыяла гэтай здрадзе. Я часта чую гэтымі днямі, што правы – неад'емныя ад чалавека, бо яны, маўляў, знаходзяцца ў сярэдзіне яго ад нараджэння, як тыя гены ці ДНК. Зручна – асабліва для таго, хто мусіць абараняць – не ствараць – штосьці дадзенае ад нараджэння? Аднак правы не бываюць прыроджанымі: гэта штучныя, створаныя чалавекам структуры, вынік супольных роздумаў, прадукт гісторыі і *працы* ў маральнай і палітычнай сферах чалавечай дзейнасці. Мы не атрымліваем правы ў спадчыну – мы іх ствараем. Яны перастаюць існаваць тады, калі мы перастаем ствараць інстытуты, якія займаюцца іх рэалізацыяй, і пачынаем захапляцца пачуццямі, якія іх ідэалізуюць.

Хана Арэндт добра сказала (яшчэ ў 1951 годзе, але гэта магло б быць сказана і сёння): «Ніводзін парадокс сучаснай палітыкі не напоўнены да такой ступені горкай іроніяй, як неадпаведнасць паміж намаганнямі ідэалістаў, натхнёных добрымі намерамі (яны ж упарта настойвалі на «неад'емнасці» тых правоў чалавека, якімі маглі карыстацца дзеля свайго здавальнення толькі жыхары заможных цывілізаваных краін) і сітуацыяй адсутнасці саміх гэтых правоў. Роўнасці ў нас не атрымліваецца, але яна вынікае з арганізацыі чалавечага грамадства настолькі, наколькі грамадства кіруецца прынцыпам справядлівасці. Мы не нараджаемся роўнымі, мы робімся роўнымі як чальцы групы выключна таму, што пастанавілі гарантаваць кожнаму з нас аднолькава роўныя правы».

Пачынаючы з XVIII стагоддзя і да сярэдзіны XX-га левыя вызначалі сябе як абаронцаў ведаў, атэізму, прагрэсу, скептычнага спосабу мыслення і ўніверсальных (а не адносных) свабодаў. Усё гэта цяпер жахлівым чынам перакруцілася; устойлівыя каштоўнасці нашых папярэднікаў мы замянілі на нясмелыя, запалоханыя лагічнымі абгрунтаваннямі шаманскіх ідэалогій і практык усіх масцей.

11 верасня — а пад гэтым я разумею не толькі бойню ў Сусветным гандлёвым цэнтры, але і клубок поўных нянавісці, рэакцыйных поглядаў на свет, якія выступілі ў той дзень з выразнай сілай, а таксама арганізацыі, што іх прытрымліваюцца, – стала заклікам да змагання. Бывае час пераменаў, калі адбываецца паварот ці нават разрыў ходы гісторыі. Цяпер якраз такі час. І раз ён надышоў, мы мусім расстацца са згубнай звычкаю прыпісваць слушнасць вясніку, а не вестцы.

Усялякая мараль бярэ пачатак у рэалізме: наша здольнасць бачыць свет такім, які ён ёсць, а не такім, якім мы жадаем яго бачыць, павінна стацца (дый заўсёды мусіла б быць) пунктам адліку палітыкі левага толку. Ці хапае нам сумленнасці і смеласці, каб вызваліцца ад шалупіння нашых рамантычных ілюзіяў адносна прыгнечаных і нашых сарамлівых лагічных абгрунтаванняў, народжаных з пачуцця віны, пахвальбы і абыякавасці? Ад гэтага залежаць нашыя жыцці і, бясспрэчна, той узор свету, які мы пакідаем у спадчыну нашчадкам.

**С'юзі ЛІНФІЛД, Нью-Йоркскі універсітэт**

*© Project Syndicate and Institute for Human Sciences, снежань, 2001*

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1799 Нумар падпісаны ў друк 20/12/2001 (15:00) Наклад – 9.640